

# Працоўная Грамада

У адзінстве сіла!

№ 7 жнівень 2000 года

ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ ЎСХОДНЯЙ ВІЦЕБШЧЫНЫ

# Калі б была магчымасць, то на Усебеларускі з'езд з'ехалася б уся Беларусь

Людзі ехалі за сто, дзвесце, трыста кіламетраў! Ехалі з усіх куткоў і куточкаў Беларусі. Ехалі на УСЕБЕЛАРУСКІ З'ЕЗД ЗА НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ.

Да пачатку высокага сходу заставалася яшчэ шмат часу, а ўжо былі зарэгістраваны 1376 дэлегатаў, прадстаўляючых самыя розныя колы грамадскасці. На з'езд прыехала нямала гасцей: дэпутат Сойма Літвы Саўлюс Печэлюнас, першы польскі консул у Рэспубліцы Беларусь Тадэвуш Мыслік, сябры беларускіх суполак з розных краін. У зале прысутнічалі амбасадары Францыі — Бернар Фасье і Польшчы — Марыуш Машкевіч, Часовы паверaны ў справах Чэшскай Рэспублікі Алеш Фойцік і прадстаўнікі іншых дыпламатычных місій.

Бадай, упершыню за апошнія гады вялікая зала Палаца культуры ТАА «Сукно» не змагла ўмясціць усіх жадаючых прыняць удзел у рабоце Усебеларускага з'езда за незалежнасць. Тым, хто стаяў у праходах, сядзеў на прыступках, па патрабаванні пажарных прыйшлося выйсці ў фае і там па дынаміках слухаць прамоўцаў. І ў гэтым была свая асаблівая сімвалічнасць — здавалася, калі б была магчымасць, то на Усебеларускі з'езд за незалежнасць з'ехалася б уся Беларусь. Сапраўды, кожнага сумленнага чалавека хвалюе лёс мілай Радзімы, лёс Бацькаўшчыны.




Гэту важнейшую надзею на Беларусі віталі ў тэлеграмах і лістах многія грамадзяне нашай краіны. З-за акіяна далятала слова старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Івонкі Сурвіллы. З Германіі даслаў ліст Усебеларускаму з'езду Васіль Быкаў, з Польшчы — Зянон Пазьняк, з Літвы — Сямён Шарэцкі, з Чэхіі — прэзідэнт Вацлаў Гавэл, з Украіны — Генадзь Удавенка і Юрый Кастэнка. Гэты спіс далёка няпоўны...

Пасля такога пачатку поспех Усебеларускага з'езда быў прадвызначаны. Тым больш што ўсе дэлегаты выявілі надзвычай высокую ступень арганізаванасці і, нягледзячы на ўсе складанасці, забяспечылі парадак у зале і вестыбюлі.

Урачыстае пасяджэнне адкрыў Генадзь Бураўкін, уступнае слова якога шмат хто слухаў са слязамі на вачах. З галоўным дакладам выступіў Радзім Гарэцкі, які грунтоўна прааналізаваў становішча ў краіне. Гістарычныя аспекты незалежнасці Беларусі асвяціў Анатоль Грыцкевіч. Сэрцы дэлегатаў запалілі палымяныя прамовы Ніла Гілевіча і Рыгора Барадуліна. Потым узнёсла выступілі Міхаіл Чыгір, Генадзь Грушавы, Таццяна Процька, Аляксей Кароль ды іншыя аўтарытэтныя ў Беларусі людзі.

**КУЛЬМІНАЦЫЙНЫМ МОМАНТАМ УСЕБЕЛАРУСКАГА З'ЕЗДА СТАЛАСЯ ЎХВАЛА АКТА НЕЗАЛЕЖНАСЦІ. ПАСЛЯ НЕПРАЦЯГЛЫХ, АЛЕ ДОСЫЦЬ ПРЫНЦЫПОВЫХ СПРЭЧАК ЁН БЫЎ ПРЫНЯТЫ АДНАГАЛОСНА. ЗА ГАЛОЎНЫ ДАКУМЕНТ З'ЕЗДА ДЭЛЕГАТЫ ГАЛАСАВАЛІ СТОЯЧЫ.**

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ, Аляксавдр СТАРЫКЕВІЧ. "НАРОДНАЯ ВОЛЯ", 1.08.2000 г.**

## Рыгор Барадулін
## Усебеларускаму З'езду

**Беларусь, як брыльянт у пярсцёнку Еўропы.**
**Мы болей не хлопы і не халопы.**

*Нам богам дадзенае права*
*Радзімы нашай дзецьмі звацца*
*І наша даўняя дзяржава*
*Дзяржавай мусіць заставацца.*

*Ні перад кім ніколі продкі*
*Не гнулі гордыя галовы.*
*У паднявольных век кароткі.*
*У пастцы толькі сыр дармовы.*

*Як сэрца біцца перастане*
*Матулі нашай, нас не стане.*
*І толькі застануцца здані*
*У напамін аб цёмным змане*

*Не варта вабіцца дарамі,*
*Што абяцаюць у прымусе.*
*Дык будзем жа гаспадарамі*
*У цёплай хаце Беларусі!*

**Шаноўнае спадарства!**

Сардэчна вітаю і віншую дэлегатаў і ўдзельнікаў Усебеларускага з'езда за незалежнасць — важнейшага чынніку на шляху да святой мэты — незалежнай, суверэннай беларускай дзяржаўнасці.

Жыве Беларусь! **Васіль БЫКАЎ.**

Рада Беларускай Народнай Рэспублікі вітае удзельнікаў Усебеларускага з'езда за незалежнасць, які сабраўся ў Мінску 29 ліпеня 2000 года.

У час паважнай пагрозы існаванню беларускай дзяржаўнасці верныя сыны і дочкі Беларусі, прадстаўнікі ўсіх раёнаў краіны, сабраліся на гэты форум, каб заявіць перад цэлым светам, што найвялікшая каштоўнасць для беларускага народа — гэта свая незалежная дзяржава.

Ужо больш як 80 гадоў Рада БНР усімі даступнымі сродкамі даводзіць свету, што Беларусь як еўрапейская краіна са сваёй тысячагадовай гісторыяй і апрычонай культурай мае поўнае права на незалежнасць. Рада БНР, аб'ядноўваючы беларусаў, раскіданых па ўсіх кантынентах зямлі, працягвае паслядоўна дамагацца міжнароднай падтрымкі беларускай дзяржаўнасці, якой ізноў пагражае расійскі імперыялізм.

Шаноўныя суродзічы, дарагія сёстры і браты! Беларуская моладзь!

Гісторыя чалавецтва поўная прыкладаў, калі свабода даставалася коштам вялізных намаганняў цэлых пакаленняў. Будзьма ж вернымі папярэднім пакаленням змагароў за волю Беларусі. Заставаймася разам пад святым бел-чырвона-белым сцягам, бо толькі на гэткім шляху мы станемся гаспадарамі сваёй зямлі і свайго гістарычнага лёсу, і толькі тады мы здабудзем для нашай Бацькаўшчыны шчаслівую будучыню.

Няхай дапаможа нам Бог!

**Жыве Беларусь!**

Ад імя Рады Беларускай Народнай Рэспублікі —
Івонка СУРВІЛЛА, старшыня Рады БНР.

# АКТ НЕЗАЛЕЖНАСЦІ БЕЛАРУСІ




Мы, дэлегаты Усебеларускага з'езда, паўнамоцныя прадстаўнікі народа Беларусі,

– усведамляючы адказнасць за будучыню краіны;

– нагадваючы, што Рэспубліка Беларусь з'яўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднанных Нацый;

– грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права,

**● ЗАЯЎЛЯЕМ: ●**

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасці: ад Полацкага княства, Вялікага княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты - свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна Беларусі. Яна абвяшчала незалежнасць краіны ў вонкавых дачыненнях, вяршэнства самастойнасці і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя дзеянні супраць суверэнітэту Беларусі і нацыянальнай дзяржаўнасці недапушчальныя і павінны карацца як найвялікшае злачынства.

Дзяржаўны суверэнітэт быў замацаваны ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года. Паводле яе Беларусь увайшла ў свет як нейтральная мірная і бяз'ядзерная дзяржава. Незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны альбо скасаваны праз рашэнні дзяржаўных асоб і органаў, нават праз рэферэндум.

Сёння незалежнасць Рэспублікі Беларусь знаходзіцца пад пагрозай. Рэальнай небяспекай ёй стаў дагавор аб стварэнні так званай саюзнай дзяржавы з Расіяй, падпісаны 8 снежня 1999 года прадстаўнікамі беларускіх улад, чыя легітымнасць не прызнаецца ў большасці краін свету. Мы — за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі свету, і асабліва з суседзямі: Расіяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам іншай дзяржавы.Мы не дазволім ліквідаваць нашу незалежнасць і абмежаваць наш суверэнітэт, знішчыць нашу краіну.

Незалежнасць - гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна. Толькі яна і толькі дзяржаўны суверэнітэт адкрывае шлях нашай краіне ў еўрапейскую і міжнародную дэмакратычную супольнасць.

Мы, дэлегаты Усебеларускага з'езда,

**●СВЕДЧЫМ ●**

Богам і гісторыяй дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву з яе адвечнымі сімваламі - бел-чырвона-белым сцягам і гербам «Пагоня»;

**● АБВЯШЧАЕМ ●**

незалежнасць і дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа;

**● ПРЫЗНАЁМ ●**

не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі;

**● ЗАКЛІКАЕМ ●**

усіх грамадзян Беларусі і ўсіх суайчыннікаў за мяжой згуртавацца вакол ідэй Акта незалежнасці Беларусі, бараніць незалежнасць Айчыны;

парламенты і ўрады дэмакратычных дзяржаў, міжнародныя арганізацыі і сусветную грамадкасць забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Бе-ларусь.

**Жыве Беларусь!**

***Прынята Усебеларускім з'ездам 29 ліпеня 2000 года ў Мінску.***

## ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН: "І хіба не парадокс, што навукай і культурай смела бяруцца кіраваць у ёй прыблуды, якія дэманстратыўна ігнаруюць і зневажаюць яе гісторыю і яе геніяў?."

Паважаныя сябры!

Шаноўныя дэлегаты і госці Усебеларускага з'езда за незалежнасць!

Я думаю, што ў асабістым лёсе кожнага з нас сённяшні дзень абавязкова стане адным з самых важных і дарагіх. І вельмі хачу, каб такім ён застаўся ў гісторыі нашай Бацькаўшчыны, у памяці ўсіх беларусаў, што ўпарта і пакутліва, праз страты і расчараванні, нястомна і нязломна ішлі, узнімаліся да вяршынь нацыянальнай дзяр-жаўнасці...

Практычна кожны народ, кожная краіна аднойчы рашуча і востра ставяць перад сабой пытанні: як жыць далей, куды ісці, чаго чакаць ад будучыні? Па глыбокім перакананні тых, хто падпісаў заклік на Усебеларускі з'езд за незалежнасць, такі час прыйшоў да нас.

У густым тумане хітрых дыпламатычных фармулёвак, пад грукат салютаў і парадаў у гонар славянскай еднасці і моднай інтэграцыі пагрозліва заносіцца цяжкі бязлітасны меч над маладою галавой яшчэ не ўзмужнелай беларускай дзяржаўнасці. Падпісаны вышэйшымі кіраўнікамі Расіі і Беларусі Дагавор аб стварэнні адзінай саюзнай дзяржавы вымагае сумленнага і адназначнага адказу на галоўнае пытанне:што ж рэальна прапануецца для двух братніх народаў, для дзвюх суседніх краін? Калі падысці строга лінгвістычна і юрыдычна да настойліва прапагандуемай фармулёўкі новага ўтварэння, дык яна выклікае як мінімум недаўменне. Калі гэта саюз, то дзяржаў у ім павінна быць не меней як дзве. А калі гэта адна дзяржава, дык пры чым тут нейкі саюз?..

Праўда, нас з самых высокіх афіцыйных трыбун, **з прыкладаннем рукі да сэрца** сіляцца пераканаць, што ў адзінай дзяржаве будзе захоўвацца прынцып «суверэннай роўнасці дзяржаў-удзельніц». Хацелася б паверыць. Але я, напрыклад, ну ніяк не магу ўцяміць, як гэта ў адной дзяржавы будзе па два паўнамоцныя пасла ў Вашынгтоне і Пекіне, Лондане і Парыжы. Ніяк не магу ўявіць, што дзеля арыгінальнага новаўтварэння будзе адкінуты непарушны прынцып міжнародных арганізацый «адна краіна — адзін голас». Вядома, тут мне могуць кіўнуць на гістарычны прэцэдэнт: мелі ж у ААН, голас, акрамя СССР, Украіна ды Беларусь. Так. Але тады для іх адзінадушна і свядома міжнародная супольнасць зрабіла выключэнне — за выдатныя заслугі ўкраінскага і беларускага народаў у вайне з гітлераўскім фашызмам... А за што рабіць для Беларусі выключэнне зараз? За тое, што не здолела як след распарадзіцца сваёю дзяржаўнасцю і гатова лёгка аддаць яе ў рукі больш вопытнай суседкі? За такое цывілізаваны свет звычайна павагай не надзяляе нікога, нават самых талерантных і памяркоўных...

Дзіцячая казачка пра дзяржаву з двай-

ным суверэнітэтам, можа, таго-сяго і зацікавіць, толькі не беларусаў, якія добра і горка помняць, як былі ўжо не так даўно ў імперыі з двухгаловым гербам і лічыліся ў ёй забітымі, цёмнымі ды няздатнымі, без права на ўласную гісторыю і родную мову...

Многія ў нас наіўна верылі, што тыя, хто так імкнуўся і **ўрэшце дарваўся да ўлады,** будуць думаць і клапаціцца аб нашай краіне. А яны ўжо тады **тайна марылі** аб зусім іншых каронах і тронах. Адна і тая ж рука ўпэўнена перагортвала напісаныя спрактыкаванымі памочнікамі старонкі гімнаў беларускай незалежнасці і міралюбнасці і без ваганняў падпісвала глянцавыя лісты аб стварэнні ўдарнай расійска-беларускай вайсковай групоўкі і стварэнні адзінага эмісійнага цэнтра ў Маскве. Тыя, хто на беларускай мове **кляўся ў вернасці Канстытуцыі** і вышэйшым інтарэсам народа, палец аб палец не ўдарыў, каб адну з самых старажытных і мілагучных славянскіх моў не выцяснялі з дзіцячых садкоў і школ, тэлеэкранаў і радыёстудый, з міністэрскіх кабінетаў і акадэмічных лабараторый, са старонак падручнікаў і нават з вясковых клубаў. Дзяржава, 81 працэнт грамадзян якой пры пе-рапісе насельніцтва мінулага года назвалі сябе беларусамі і амаль 82 працэнты з іх запісалі роднай мовай беларускую, не мае ніводнай вышэйшай навучальнай установы, дзе ўсё выкладанне вялося б на мове карэннай нацыі! І хіба не парадокс, што **навукай і культурай смела бяруцца кіраваць у ёй прыблуды, якія дэманстратыўна ігнаруюць і зневажаюць яе гісторыю і яе геніяў?..** Гэта ў сённяшняй, суверэннай, самастойнай Беларусі. А што будзе, калі рэспубліка стане часткаю новай дзяржавы?

Дык што ж такое ў нашых умовах суверэнітэт і незалежнасць — гучны лозунг ці само жыццё? І колькі яго нам трэба, каб напоўніць жывым зместам азначэнне ў адным са слоўнікаў: «суверэнітэт — поўная незалежнасць дзяржавы ад іншых дзяржаў у яго ўнутраных справах і знешніх дачыненнях?»

**Для мяне суверэнітэт — справа жыцця** з яго мінулым і будучым, з правамі і абавязкамі, з павагай да чужой думкі і пазіцыі, з чалавечай і нацыянальнай годнасцю, з вяршэнствам розуму і справядлівасці. **І патрэбен ен мне ўвесь, поўны і рэальны — з дзяржаўнай незалежнасцю, з даверам да законаў сучаснай эканомікі, з высокай духоўнасцю, з «пачэсным пасадам між народамі» і ўрэшце са спрадвечнымі нацыянальнымі сцягам і гербам і не нямым гімнам.** Таму і **прыйшоў я разам з вамі** на гэты з'езд выгукнуць сваю трывогу і застарэлы боль, імкнучыся быць пачутым і зразуметым і дома, і ў далёкім замежжы, **жадаючы атрымаць падтрымку адданых сяброў і блізкіх суседзяў, чакаючы міжнародных гарантый суверэннага жыцця роднай дзяржавы.** Вельмі хачу спадзявацца, што XXI стагоддзе будзе стагоддзем вольнай, абноўленай, самастойнай Беларусі. **З гэтымі словамі, з гэтай марай, з гэтай верай я і аб'яўляю Усебеларускі з'езд за незалежнасць адкрытым.**

# Беларусам нельга здраджваць сваёй культуры!

Ва Ўсебеларускім з'ездзе за незалежнасць ад Гарадоцкага раёна прымаў удзел Леанід Пятровіч Казак, удзельнік маладзёжнай патрыятычнай арганізацыі Саюз Беларускіх Патрыётаў (СБП), якая прапагандавала беларускае слова, культуру ў 1946-1947 гадах у заходняй частцы Віцебшчыны. Калі б на Беларусі была б нармальная дзяржаўная ўлада, то асобы падобныя Леаніду Пятровічу былі б найбольш паважанымі грамадзянамі, бо яны сваім зламаным лёсам набліжалі час незалежнай Беларусі. Але час ушанавання іх патрыятычных учынкаў яшчэ наперадзе, калі на Бацькаўшчыне будуць кіраваць яе верныя сыны.

Спадар Казак з ахвотай пагадзіўся даць першае інтэрв'ю нашай газеце.



**Шаноўны Леанід Пятровіч! Якія асноўныя вехі вашага жыцця?**

- Нарадзіўся я ў 1927 годзе ў в. Лугі, каля Лужкоў, што ў Шаркаўшчынскім раёне. Закончыў школу ў Лужках і ў 1944 годзе паступіў вучыцца ў Глыбоцкае педвучылішча. Сярод беларускай моладзі ўзнікла зусім нармальнае жаданне шанаваць родную мову, культуру, традыцыі, супрацьстаяць татальнай русіфікацыі Беларусі. Будучыя педагогі аб'ядналіся ў свой вольны час дзеля захавання роднай культуры ў суполку - Саюз Беларускіх Патрыётаў (СБП). Агітавалі мы за беларускую культуру, але камуністычныя улады арыштавалі сяброў арганізацыі -маладых педагогаў і асудзілі на 10-15 гадоў сталінскіх канцлагераў. З 1947 па 1953 я правёў у камуністычных канцлагерах, потым было пяцігадовае паражэнне ў правах. Выжыў у ГУЛАГу толькі дзякуючы моцнай спартыўнай падрыхтоўцы - быў чэмпіёнам Беларусі па штурханню ядра, а таксама харчовай падтрымцы бацькоў. Ва ўмовах каланізацыі Беларусі вяртацца на Радзіму не было сэнсу: нашы веды Бацькаўшчыне былі не патрэбны.

Сорак пяць год адпрацаваў на Калыме, зарабіў кааператыўную кватэру і ў 1992 пераехаў на Беларусь, стаў жыць у Гарадку.

**Леанід Пятровіч, якое ўражанне зрабіў на Вас Усебеларускі з'езд?**

- Пры пастаянным здзеку з усяго беларускага, пры тым што многія ураджэнцы Беларусі не лічаць сябе беларусамі, пры ўсёй інтаграцыйнай шуміхі ўлад я убачыў, што на Беларусі даволі многа беларусаў, для якіх беларуская дзяржава святая каштоўнасць. На мяне зрабіла добрае ўражанне беларуская гаворка Міхаіла Чыгіра, экс-прэм'ера -адчуваецца, што гэта наш беларус, а не прыблуда. Сярод дэлегатаў з'езда я бачыў толькі разумныя твары, а прамоўцы выказвалі мудрыя думкі аб тым, што трэба рабіць для захавання Незалежнасці Беларусі. Я адпачыў душой, бо хлусні, брыдот і паклёпніцтва не было і ў паміне, а высокія думкі магчыма было выказаць і па-беларуску.

**Як Вы ацэньваеце сучасны стан беларускай мовы, культуры?**

- Мне цяжка даваць прафесійны каментарый, бо асноўную частку жыцця правёў за межамі Беларусі, але свае адносіны выкажу.

Ёсць невялікі анекдот. У армянскага радыё спыталі: «Якая мова самая цяжкая?» Радыё адразу дала адказ: «Беларуская... Бо яе шэсць год вучаць прэзідэнт, Саўмін, вертыкаль і ніяк вывучыць не могуць». Ў кожным анекдоце ёсць частка ісціны.

Усім грамадзянам трэба добра зразумець: паважаюць тых, хто шануе сваё, ведае сваю гісторыю, культуру. Нельга здраджваць сваёй культуры. На трасянцы культурным чалавекам не будзеш. Ніхто цябе ў свеце не будзе лічыць цывілізаваным чалавекам, калі ты не ведаеш сваіх каранёў. Гэту існуючую для значнай часткі грамадзян праблему магла бы дапамагчы вырашыць дзяржава, калі б яна была сапраўды беларускай, калі б ёй кіравалі беларусы, а не запраданцы. Каб усё гэта асэнсаваць трэба мець розум. Пакуль яго ў большасці грамадзян не хапае.

**Дзякуй, спадар Леанід Пятровіч за шчырую размову!**

Шаноўныя ўдзельнікі з'езда, дарагія сябры!

Рады вітаць ваш сход, што мае повязь з гістарычным першым Усебеларускім з'ездам, які адбыўся напрыканцы 1917 года і быў вызначальным крокам да ўзнікнення сучаснай беларускай дзяржаўнасці.

Ёсць упэўненасць у тым, што ў новым сусветным парадку, у які мы патрапілі за мінулыя дзесяць гадоў і які прынёс шмат змен у нашым жыцці, разам могуць у згодзе і роўнасці супрацоўнічаць толькі такія ўдзельнікі, якія самі ўсвядомілі сваё ўласнае вызначэнне. Веру, што напамін і спадчына беларускай дзяржаўнасці ды незалежнасці ёсць неабходная прадумова ўмацавання нацыянальнага самавызначэння беларускай дзяржавы.

У сваіх размовах з людзьмі, якія паходзяць з вашага краю ці займаюцца яго вывучэннем, шматкрат адчуў, што на Беларусі жыва памяць пра тое, якім чынам паў камунізм, што меўся на нашых землях. Лічу за частку адказнасці кожнага грамадзяніна Чэшскай Рэспублікі, кожнага еўрапейца і ўласна ўсіх, хто прызнае ды бароніць такія каштоўнасці, як дэмакратыя, захаванне правоў чалавека ды свабоды асобы, праяўляць цікавасць да становішча, у якім знаходзіцца Беларусь і яе грамадзяне, каб паводле сваіх магчымасцяў словам і справай дапамагаць прасоўванню дэмакратыі на Беларусі.

Жадаю вашаму сходу спакойнай хады і шмат поспехаў!

З прывітаннем — **Вацлаў ГАВЭЛ,** прэзідэнт Чэшскай Рэспублікі.



*Пісьменнік Яўген Будзінас вітае пасла Францыі ў Беларусі Бергара Фасье (у цэнтры - сустаршыня аргкамітэта Усебеларускага з"езда Генадзь Бураўкін).*

**Фота Irex/Pro Media**

ларуская мова недасканалая. Прачытаў бы выказванне Адама Міцкевіча! Няўжо не разумее, што гэтым ён абражае ўвесь народ беларускі, а сябе ставіць перад усім светам у неймавернае становішча.

Нашы кіраўнікі часта любяць нагадваць, што дзвюхмоўе ёсць і ў іншых краінах— напрыклад, у Фінляндыі. Але там, у адрозненне ад нас, сапраўднае дзвюхмоўе: калі ня ведаеш і не карыстаешся абедзвюма мовамі, а толькі шведскай, дык Вас, шаноўныя, не выбралі б не тое што ў дэпутаты ці ўзялі ў міністры, а нават не паставілі б кіяскёрам, клеркам на пошту ці прыбіральшчыкам. Дарэчы, гэта тычыцца амаль усіх дырэктароў і кіраўнікоў заводаў, прадпрыемстваў, калгасаў Беларусі. Няма роднай мовы ў большасці навучальных устаноў і навуковых інстытутаў, магазінах і паліклініках; банках і пошце. Знікла яна з урадавай і іншай дакументацыі. грамадства і замены яе мовай рускай. Ці можна сабе ўявіць большую катастрофу для нацыянальнай культуры? Уплыў гэтай трагедыі перабольшвае памеры чарнобыльскай бяды, бо наступства Чарнобыля закранулі адну пятую тэрыторыі Беларусі, а моўная палітыка рэжыму ахоплівае тэрыторыю ўсёй краіны».

У гісторыі Беларусі рэлігія, на жаль, не спрыяла дзяржаўнасці і незалежнасці. Яна больш раз'яднала беларусаў, працавала на іх русіфікацыю ці паланізацыю, бо лічыла ся, калі праваслаўны — дык рускі, калі каталік — дык паляк. Можа, некаторы час слабым, выключэннем было уніяцтва Цяпер вельмі важна, каб галоўныя канфесіі Беларусі (праваслаў'е, пратэстанцтва, каталіцтва, уніяцтва) сталі беларускамоўнымі, па-сапраўднаму нацыянальнымі. Можа, тады Беларусь нават стане цэнтрам экуменічнага руху ў сусветным царкоўным жыцці.

**Радзім Гарэцкі (сустаршыня Усебеларускага з'езда)**

## «...Толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае існаванне, і добрую славу нашаму народу».

Адна з галоўных каштоўнасцей кожнага народа — незалежная дзяржава, пабудова якой перш-наперш справа самога народа. Дзяржаўнасць беларускага народа мае тысячагадовыя вытокі і была закладзена ў самастойных княствах — Полацкім, Тураўскім і іншых. Найбольшага росквіту яна дасягнула ў XV — XVI стст. («залатым веку») у Вялікім княстве Літоўскім. Пасля страты дзяржаўнасці беларуская нацыя-нальная ідэя, стрыжнем якой было стварэнне незалежнай дзяржавы, увесь час жыла ў сэрцах і розуму лепшых сыноў беларускага народа. Спроба аднавіць самастойную дзяржаву была зроблена абвяшчэннем БНР. Затым была створана БССР. І вось 27 ліпеня 1990 г. была прынята Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. Як бачыце, наш з'езд невыпадкова сабраўся імення цяпер. Мы адзначаем 10-ю гадавіну гэтага важнейшага акта. Сардэчна віншую ўсіх са святам Дня незалежнасці! Дарэчы, вельмі паказальна, што нашы ўлады зусім не адзначаюць такі важны для дзяржавы дзень і іншым таксама стараюцца забараніць гэта рабіць.

Выступаючы ў філармоніі на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным першай гадавіне аб'яўлення суверэнітэту Беларусі, я тады сваё выступленне закончыў словамі:«Гісторыя дала нам яшчэ адзін (магчыма, апошні) шанц, калі мы можам змяніць лёс нашай Радзімы. Галоўная мэта — зрабіць Дэкларацыю рэальнай. Прыняць Дэкларацыю — гэта яшчэ не набыць незалежнасць. Гэта толькі першы крок. Усе павінны клапаціцца аб тым, каб яна не засталася толькі на паперы». На жаль, зараз я зноў вымушаны выступаць з тым жа непакоем, а можа, яшчэ і з большым.

Для Беларусі надзвычай актуальна праблема мовы. Трэба помніць, што іменна ліквідацыя беларускай мовы, як дзяржаўнай, паланізацыя грамадства паступова прывяла да аслаблення і амаль згубы незалежнасці Вялікага княства Літоўскага ў складзе Рэчы Паспалітай, а затым з уваходам у Расійскую імперыю — і дзяржаўнасці.

Стан з беларускай мовай катастрафічны. Ідзе знішчэнне беларускамоўнага навучання: няма адпаведных садкоў, беларускамоўная школа — рэдкая, ужо амаль унікальная з'ява, ідэя стварыць Беларускі нацыянальны універсітэт сустракае ад улад адмоўную рэакцыю. Ва ўрадзе беларускай мовы амаль не чуваць, нашы заканадаўцы — сенатары і «палатнікі» — поўнасцю цураюцца роднага слова. Кіраўнік дзяржавы за 6 гадоў трохі больш за гэтую лічбу звяртаўся да свайго народа на роднай мове. Калі такое здараецца (а бывае яно толькі на свята), дык успрымаецца, як сенсацыя. Нядаўна нават маскоўскае тэлебачанне падкрэсліла, што выступ быў па-беларуску. Звычайна ён стараецца размаўляць на мове суседняга народа, а калі скажа пару слоў на роднай, дык яны маюць здзеклівы сэнс, накіраваны ў бок апазіцыі. Лічыць, што беСорам! Асабліва сумна, калі не карыстаюцца мовай карэннага насельніцтва прыхільнікі незалежнасці Беларусі — усе грамадзяне краіны любой нацыянальнасці, асабліва беларусы. Закон аб мовах трэба выконваць — яго, слава Богу, яшчэ ніхто не адмяняў! А нашы шыльды, назвы пасёлкаў, калгасаў, вуліц?— няма ў іх беларускай адметнасці! Вось чаму беларускамоўны беларус часта так няўтульна адчувае сябе ў сваей роднай Беларусі, як быццам ён — носьбіт самай малой нацыянальнай меншасці сярод чужынцаў. Так не павінна быць! Трэба спыніць этнацыд беларускага народа!

Не будзе мовы, не будзе беларусаў, не будзе дзяржавы. Беларус па паходжанні, але без роднай мовы — гэта ўжо не сапраўдны беларус, а наша краіна без сапраўдных беларусаў — ужо не Беларусь. Таму беларуская мова — галоўны атрыбут дзяржаўнасці і незалежнасці Беларусі. Страта беларускай мовы — вось дзе самая вялікая небяспека для самастойнасці краіны. Для рускай мовы ў Беларусі ніякай небяспекі няма — яна была, ёсць і павінна заставацца мовай міжнацыянальных зносін, як і запісана ў Канстытуцыі 1994 г.

Васіль Быкаў у інтэрв'ю («Наша свабода» 11 ліпеня 2000 г.) сказаў на гэты конт:» Беларуская літаратура сёння ў стане катастрафічнага заняпаду. Не з прычыны браку таленаві тых аўтараў і добрых тэкстаў, колькі з выніку палітыкі ўлад, скіраванай на выцісканне беларускай мовы з жыцця

Калі глядзіш наша тэлебачанне, дык можа здацца, што ўжо жывеш у Расіі, таму нас часам больш хвалююць расійскія падзеі. Мы ведаем іх разнастайных палітыкаў, а ў сябе — толькі аднаго. Чаму амаль зусім не паказваюць жыццё суседзяў — асабліва Украіны, краін Балтыкі. У Беларусі інфармацыйнай прасторы няма!

Адзначаныя працэсы прыводзяць да страшэннай асіміляцыі беларусаў, русіфікацыі іх свядомасці не толькі ў эміграцыі, але ў самой метраполіі. Часта пры звычайнай размове пра якую-небудзь з'яву ў замежжы можна пачуць ад беларуса: «А ў нас рускіх...» ці «а ў нас, славян... «

Эканамічны і сацыяльны стан, бездухоўнасць, крыміналізацыя, адмоўная экалогія прыроды і жыцця прыводзяць да маральнага, фізічнага і грамадскага заняпаду, а ўсё разам — да сумных дэмаграфічных вынікаў: Беларусь займае адно з высокіх месц па самагубствах, захворваннях (і што найбольш небяспечна — па дзіцячых — толькі 10% дзяцей нараджаюцца здаровымі, а ў чарнобыльскіх раёнах — 2,5%), інваліднасці, абяздоленых старых, за апошнія гады смяротнасць пачала значна апярэджваць нараджальнасць — ідзе фізічнае змяншэнне карэннага насельніцтва.

Як бачым, па вельмі многіх паказчыках улады Беларусі паступова губляюць суверэнітэт краіны. Чаму так здарылася? Пасля распаду СССР бальшавіцкі рэжым не быў асуджаны, і ва ўсіх уладных структу-

рах засталіся былыя наменклатуршчыкі БССР, якія не навучыліся і кроку зрабіць без дазволу Масквы, маюць вялікую настальгію па Саюзе і таму не ведалі і да гэтага часу не ведаюць, што ж рабіць з гэтай незалежнасцю, якая спусцілася на іх галовы так нечакана, як ад Бога. і што рэдка бывае без усялякіх ахвяр. Выкарыстаць гэты Божы дар яны няздольныя. І адразу уладамі распачаўся працэс аб'яднання з Расіяй,спачатку павольны — уваход у адзіную грашовую зону, а ў апошнія пяць гадоў усё больш жорсткі і мэтанакіраваны— стварэнне адзінай дзяржавы.

Дык гэта вынік некампетэнтнасці ўлад ці мэтанакіраваная работа па інкарпарацыі Беларусі у склад Расіі? Відаць, і тое і другое, але больш апошняе. Аб гэтым сведчаць нядаўнія паспешлівыя і мітуслівыя сустрэчы чыноўнікаў розных рангаў і ў Маскве, і ў Мінску; падпісанне кіраўнікамі абедзвюх краін дагавораў і пагадненняў, зацвярджэнне ў якасці гімна Саюзнай дзяржавы былога гімна СССР, згода мець адзіныя расійскія грошы і адзіны эмісійны цэнтр (Герашчанка два дні назад выказаў упэўненасць; што пагадненне будзе падпісана ўжо сёлета); агульную мытню, агульны саюзны бюджэт; правесці выбары ў агульны парламент, удзел нашых усходніх трох абласцей у Асацыяцыі абласцей Цэнтральнай Расіі і г.д.

Вельмі паказальна, што калі сустаршыні аргкамітэта Усебеларускага з'езда сустракаліся з паслами шэрагу краін, каб растлумачыць мэты форума і запрасіць іх на яго, дык пасол толькі адной краіны, а іменна Расіі не захацеў нават размаўляць пра незалежнасць Беларусі і адмовіў іх прыняць, а Мін'юст Беларусі так спалохаўся, што яшчэ за некалькі дзён да з'езда і да прыняцця Акта незалежнасці, абвясціў, што гэты і іншыя дакументы не маюць юрыдычнай сілы, хаця артыкул пра незалежнасць Рэспублікі Беларусь запісаны ў Канстытуцыі.

Трэба зразумець, што з усіх бакоў і Расіі, і Беларусі больш выгадна, каб абедзве краіны захоўвалі незалежнасць і выступалі на міжнароднай арэне не як адна дзяржава, а як дзве дружалюбныя суседкі. Тады будзе і «калідор» у Еўропу для Расіі і энергетычны партнёр для Беларусі, бо эканамічныя, гандлевыя, культурныя і іншыя ўсебаковыя зносіны ніхто не перашкаджае паспяхова развіваць і цяпер. Спасылка на аб'яднанне краін Еўропы недарэчная, бо яна там робіцца зусім на іншых падставах. Няхай жывуць дзве незалежныя дэмакратычныя дружалюбныя дзяржавы — вялікая Расія і вольная Беларусь! Тое ж самае хочацца сказаць і пра іншыя нашы суседнія краіны — Украіну, Польшчу, Літву і Латвію!

. Калі параўнаць Беларусь з іншымі краінамі Еўропы, дык па многіх галоўных паказчыках (тэрыторыя, насельніцтва, багацце нетраў, біялагічныя рэсурсы, прыродныя ландшафты і турыстычныя магчымасці, рабочы і інтэлектуальны патэнцыял, развіццё навукі і культуры, старажытнасць гісторыі, перспектывы пашырэння сельскай гаспадаркі, прамысловасці і г.д.) наша краіна ўваходзіць ці ў першую дзесятку, ці трапляе ў першую палову. Калі да гэтага дадаць выгаднае геаграфічнае становішча краіны ў самым цэнтры Еўропы, Беларусь, безумоўна, мае ўсе падставы стаць багатай дэмакратычнай квітнеючай дзяржавай у шэрагу цывілізаваных краін Еўропы. Для гэтага неабходны эканамічныя, сацыяльныя, палітычныя рэформы ва ўмовах дэмакратызацыі і свабоды СМІ, нармальныя міжнародныя зносіны з суседнімі і ўсімі краінамі свету, значныя інвестыцыі і г.д.

Шлях да Беларусі яшчэ далёкі: трэба пераадолець усе тыя недахопы, пра якія гаварылася раней. Сярод іх вельмі важна, каб Homo soveticus перaўзгадаваўся ў Homo belarusicus і тады толькі беларуская нацыянальная ідэя можа аб'яднаць народ Беларусі. Але галоўнае — каб шлях не абарваўся ў бездань. Для гэтага патрэбен суверэнітэт, патрэбна незалежная дзяржава Беларусь! Трэба помніць прарочыя словы вялікага Янкі Купалы, якія ён напісаў яшчэ ў 1919 г.: «...Толькі адна поўная дзяржаўная незалежнасць можа даць і праўдзівую свабоду, і багатае-існаванне, і добрую славу нашаму народу».

Няхай па ўсёй Беларусі гучыць цудоўная мова наша, квітнее культура і навука, лунае над вольнай краінай бел-чырвона-белы сцяг і наперад ляціць Пагоня! Няхай багата і шчасліва жывуць усе народы Беларусі паміж дружалюбных краін-суседак! Незалежнасць Беларусі навечна! Бог не пакіне зямлю нашу! Жыве Беларусь!

## Ніл Гілевіч

### "Ставіць культуру ў абсягах жыццядзейнасці народа на другараднае месца могуць толькі людзі, якія ніколі нідзе не вучыліся».

Помню, як у зале Вярхоўнага Савета 12-га склікання амаль на кожнае маё выступленне ў абарону культуры тут жа рэагаваў з трыбуны адзін вельмі перспектыўны, як аказалася, дэпутат. «Што ён выстаўляе на першы план культуру! Мяса трэба даць народу, мяса! Трэба людзей накарміць спачатку, а тады...» Я слухаў тыя «водпаведзі» і думаў: «Божа прасветлы! Якая будзе бяда, калі такія інтэлектуалы прыйдуць да ўлады! Нічога тады не будзе: ні культуры, ні мяса, ні плёну ў душы, ні ўраджаю на ніве. **Ставіць культуру ў абсягах жыццядзейнасці народа на другараднае месца могуць толькі людзі, якія ніколі нідзе не вучыліся».**

Нацыянальная культура пачынаецца з нацыянальнай самасвядомасці, з пачуцця нацыянальнай годнасці, з разумення і ведання народам самога сябе. Менавіта адсюль вынікае стваральная энергія, скіраваная на духоўнае самасцвярджэнне, на самарэалізацыю народа у якасці суб'екта гістарычнага працэсу. Чаму ў краінах Еўропы людзі жывуць багатым, заможным жыццём? Таму што яны — патрыёты сваёй Бацькаўшчыны. Таму што высокае пачуццё нацыянальнай годнасці і гонару не дазваляе ім жыць абы-як. «Як гэта мы, фіны, ці мы, бельгійцы, датчане, шведы будзем жыць бедна, будзем пабірацца, як жабракі? Што мы — недарэкі-няздары нейкія, розумам і талентам абдзеленыя?» Нядаўна ў адной кнізе прачытаў: Данія, якая ў пяць разоў меншая за Беларусь па плошчы і ўдва разы па колькасці насельніцтва, у год прадае сельгаспрадукцыі на 50 мільярдаў долараў. На 50 мільярдаў долараў! Як і адкуль такое? Ад культуры землярobства, ад культуры гаспадарання, ад культуры кіравання краінай, а гэта значыць ад высокай агульнай культуры. Культура - гэта сумленнасць, інтэлігентнасць, шляхетнасць, сціпласць. Ну а махлярства, ашуканства, хлусня, казнакрадства. хцівасць, цынізм, хамства і гадства — гэта антыкультура. У нас яна буяе пышным махровым цветам...

Нам, усяму народу беларускаму, даўно пара зрабіць высноvу: каб жыць заможна і культурна, як іншыя еўрапейскія нацыі жывуць, трэба быць паўнапраўным гаспадаром сваёй сядзібы. *Гэта* павінна ляжаць у аснове ўсёй і ўнутранай і знешняй палітыкі нашай суверэннай дзяржавы.

Пачуццё нацыянальнай годнасці, нацыянальнай самапавагі — гэта тое, без чаго беларускі народ не зможа ацалець і захавацца, бо не зможа выстаяць перад напорам асімілятарскай агрэсіі. Мы ацалеем тады, калі будзем моцна верыць у сябе, калі ў гэтым перанаселеным жорсткім свеце будзем пачувацца ўпэўнена, спакойна, трывала. На працягу ўсёй нашай трагічнай гісто-

*(Працяг на с. 6)*

### Паважаныя ўдзельнікі і госці Усебеларускага з'езда!

Дзесяць гадоў таму назад Вярхоўны Савет на сваім пасяджэнні прыняў Дэкларацыю аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі. Потым Дэкларацыі была нададзена сіла Закона, а ў снежні 1991 года кіраўнікамі трох рэспублік (Беларусі, Расіі і Украіны) было падпісана Пагадненне аб стварэнні СНД, якое паставіла апошнюю кропку ў існаванні Савецкага Саюза. Беларусь стала суверэннай незалежнай дзяржавай. У якасці дзяржаўнай Рэспубліцы была зноў вернута нацыянальная сімволіка — бел-чырвона-белы сцяг і герб «Пагоня»...
Але сёння зноў, як і на пачатку XX стагоддзя, над Беларуссю навісла пагроза страты дзяржаўнага суверэнітэту і незалежнасці. Пануючы зараз на Беларусі прарасійскі нелегітымны дыктатарскі рэжым паставіў нашу краіну ў значную эканамічную і палітычную залежнасць ад Расіі і праводзіць актыўную работу па далучэнні Беларусі да Расійскай Федэрацыі, што з'яўляецца процілаказаннем еўрапейскаму менталітэту беларускага народа і груба парушае Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь...

Жадаю Усебеларускаму з'езду плённай працы і прыняцця рашэнняў, якія будуць садзейнічаць умацаванню дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі, што з'яўляецца вышэйшай свяшчэннай каштоўнасцю кожнага народа.

Няхай жыве незалежная, вольная Беларусь, якой яе абвясцілі Рада БНР 25 сакавіка 1918 года і Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце Беларусі 1990 года, і што замацавала Канстытуцыя Рэспублікі Беларусь у сакавіку 1994 года!

**С.ШАРЭЦКІ, старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.**

(Працяг. Пачатак на с.5)

'рыі ворагі Беларусі намагаліся не даць сфарміравацца беларускай нацыянальнай самасвядомасці, не даць узрасці і рас-квітнець дрэву беларускай культуры. Бо ведалі, што нацыянальна свядомы народ з багатай, моцна развітай уласнай культурай зламаць і асіміляваць немагчыма. Самы дзейсны спосаб асіміляцыі — гэта пазбавіць народ сваёй гісторыі і сваёй мовы, разбурыць тым самым апоры нацыянальнай самабытнасці. А гэта — тое самае, што размякчыць косці ў чалавеку, каб ён не толькі хадзіць, але і стаяць не мог.

Ліквідатарскія адносіны ўладатрымальнікаў да беларускай мовы, гісторыі, культуры панавалі ў нас заўсёды — і тут ёсць над чым задумацца. Які б ні ўсталяваўся рэжым — ліквідатары беларушчыны захоплівалі высокія пасады ва ўрадзе, у сістэмах адукацыі і культуры, у сродках масавай інфармацыі, каб праводзіць сваю асімілятарска-русіфікатарскую палітыку. Так было ў мінулым, так ёсць і сёння. Найбольш выдатныя, аўтарытэтныя дзеячы нацыянальнай культуры, актыўныя праваднікі беларускай ідэі, ці гэта пісьменнік, ці навуковец, ці рэжысёр тэатра, адсоўваюцца на задні план, выштурхоўваюцца з культурнага працэсу, каб не было іх уплыву на грамадства, каб яны не прысутнічалі у палітычным і культурным жыцці нацыі.

Таму іх няма — ні на тэлеэкране, ні ў эфіры, ні ў дзяржаўнай прэсе, ні ў рэдкалегіях энцыклапедый, ні ў ліку акадэмікаў Нацыянальнай акадэміі навук. Галоўны страх ліквідатараў у тым, што за гэтак званымі «беларускімі нацыяналістамі» пойдзе народ. Дык такі і пойдзе! Пойдзе! **Бо народ адчувае, дзе праўда, а дзе хлусня. Хлуснёю ж ён ужо насыціўся на сто гадоў наперад.**

Пачварнаму рэжыму ўдалося ажыццявіць злачынную мэту: раскалоць творчую інтэлігенцыю. Водападзелам стала ідэя аб'яднання Беларусі з Расіяй у адной дзяржаве, дакладней — паглынання Беларусі вялікай суседкай. Сёння ўжо часта не ведаеш, хто перад табою — гэтыя творцы: наіўныя абывацелі ці свядомыя запраданцы? З пісьменнікамі, праўда, прасцей: каля 60 «інжынераў чалавечых душ» адкрыта, у друку, выступілі з заявай у падтрымку ліквідацыі дзяржаўнай самастойнасці Беларусі. Неверагодная рэч! Паперадзе «прагрэсу» пайшлі сейбіты разумнага, добрага, вечнага. Інтэлігенцыі, якой сапраўды баліць сэрца за лёс Бацькаўшчыны, шмат, але на вялікі жаль, шмат і не такой. Многія да Беларусі яшчэ проста не дайшлі, многіх спаралізаваў страх. Гэта вынік таго, што свабодалюбныя, незалежніцкія пачуцці беларускай інтэ-лігенцыі на працягу цэлых дзесяцігоддзяў афіцыйна кляйміліся як выява імкненняў антыдзяржауных, антынародных і антырускіх, як буржуазны нацыяналізм», нацдэмаўшчына» і нават «нацыянал-фашызм» — не спыняліся і перад такімі ярлыкамі.

Быў нядоўгі перыяд, гады 1990— 1994, калі гэтакія брутальныя атакі на наша беларускае родалюбства, на беларушчыну крыху пааціхлі. Але шэсць гадоў назад сітуацыя рэзка памянялася і супроць беларускага нацыянальнага адраджэння пачаўся самы сапраўдны крыжацкі паход. Толькі крыжакі не з Захаду, а з нетраў тут укаранелага і разбуялага антыбеларускага чыноўніцтва. На сёння сітуацыя з беларускай мовай, беларускай школай, беларускай кнігай, у цэлым — з беларускай духоўнай культурай выклікае вялікую трывогу, трэба глядзець праўдзе ў вочы. Галоўная прычына гэтага — адна: узяты вярхоўнымі ўладамі курс на згортванне і ліквідацыю дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі, на інкарпарацыю нашай краіны ў склад Расіі. Вось чаму: усе, каму дорага наша зямля, наша слова, наша песня, наша гістарычная памяць, наша духоўная спадчына, нашы звычаі і традыцыі, — усе павінны падняць голас у абарону свабоды і суверэнітэту Бацькаўшчыны.

Страшная гэта рэч — абыякавасць да лёсу сваёй краіны, сваёй дзяржавы, сваёй мовы. Між іншым, нацыянальны нігілізм, а затым і варожасьць да беларускай ідэі вырастае і з элементарнай недасведчанасці многіх грамадзян у пытаннях гісторыі Беларусі. Вось у штотыднёвіку «Свободные новости» дырэктар аднаго дзяржпрадпрыемства «ничтоже сумняшеся» піша: «Дата 25 марта... связана с созданнем БНР, а потому я отношу ее к событиям фашисткого толка» (24—31.3.2000). Так чорным па беламу і надрукаваа. І хто ж гэтаму спадару дырэктару растлумачыць,што дзень 25 сакавіка, Дзень Волі, усім сваім зместам і духам, усёй сваёй ідэёвай і маральнай сутнасцю скіраваны супраць фашызму, што ён ёсць адмы-словым увасабленнем свабоды, дэмакратыі, сацыяльнай і нацыянальнай справядлівасці, братэрства народаў і міру? Хто яму дасць пачытаць праграмныя дакументы Першага Усебеларускага з'езда, на якім было вырашана стварыць БНР? Можа, Беларускае тэлебачанне гэта зробіць — пусціць цыкл гутарак пра палітычную, сацыяльна-эканамічную і культурную праграму БНР? Я падаў адзін прыклад, а колькі падобных неразумных выдумак друкуецца на старонках афіцыйных газет, гучыць з тэ-леэкрана і з эфіру дзеля таго, каб абылгаць і знявечыць нашу гісторыю? Толькі ўсе гэтыя намаганні марныя. Дзень 25 сакавіка быў, ёсць і назаўсёды будзе днём нашага нацыянальнага гонару. Гэтаксама, як і Дзень 27 ліпеня, які амбітныя узурпатары ўлады рашылі ў гісторыі адабраць. Святая прастата! — як гаварылі старажытныя лаціняне.

**Коратка падагульняю сказанае.**

Культурная краіна — гэта краіна гарантаваных дэмакратычных свабод, у якой душу чалавека не гняце страх, што ён можа без суда і следства стаць ахвярай хапуна і тэрору.

Культурная краіна — гэта краіна адкрытага прававога грамадства, дзе пануюць роўнаабавязковыя для ўсіх грамадзян законы.

Культурная краіна — гэта краіна, дзе дзяржаўныя ўлады хлусіць свайму народу не могуць, а калі такое здараецца, то нясуць суровае пакаранне.

Культурная краіна — гэта краіна, дзе пануе культ роднай мовы, дзе ва ўсіх грамадзян гістарычныя нацыянальныя святыні ў вялікай пашане, а прыклад такога шанавання дае простым людзям высокае начальства.

Культурная краіна — гэта краіна, дзе ў свядомасці грамадзян вышэй за ўсё каштоўнасці, за ўсе даброты і скарбы цэніцца дзяржаўная незалежнасць, дзе нацыянальным суверэнітэтам не гандлююць і за нафту або газ не прадаюць.

Беларускі народ — за ўс0е панесеныя ў стагоддзях ахвяры, за ўсе сцярпелыя пакуты і крыўды — заслужыў таго, каб жыць у культурнай краіне. Але такою нашу краіну ніякі добры дзядзька для нас не зробіць. Такою сваю краіну мы можам і павінны зрабіць самі.

---

Паважаныя спадарыні і спадары, дарагія суродзічы!..

Мы захапляемся самахвярнай мужнасцю патрыётаў Бацькаўшчыны, якія наперакор дзяржаўнаму гвалту над імі бароняць агульначалавечыя і нацыянальныя вартасці: свабоду, мову, культуру ды права кожнага на эканамічную ініцыятыву, уласнасць і матэрыяльны дабрабыт. Мы ўсведамляем сабе, што кожны і кожная з вас, удзельнікаў Кангрэсу за незалежнасць, сваім удзелам у ім выклікаеце небяспеку пераследу з боку сучаснага антыбеларускага рэжыму. Тым большая ўдзячнасць павінна быць вам ад тых, каму гэткая небяспека не пагражае, але хто таксама адчувае трывогу за долю свайго народа. Бо ў вашых асобах Бацькаўшчына знайшла адданых абаронцаў і вестуноў лепшага заўтра, якое няўхільна мусіць настаць.

**Жыве Беларусь!**

**Аляксандр Сільвановіч, Янка Запруднік**, сустаршыні Каліцыі ў абарону дэмакратыі і правоў чалавека ў Беларусі

---

**Дорогі побратими!**

Сердечно вітаємо Всебілоруськнй з'їзд за незалежність. Підтримуємо Вашу мужню боротьбу задля утвердження незалежної, вільної, цивілізованої, європейської, демократичної Білоруської держави.

Бажаємо Вам перемоги!

Будь-які наміри повернення Білорусі в якусь нову реанімовану Московську імперію — цьому ніколі не бути...

**Г.УДОВЕНКО, голова Народного руху України, голова фракці, В.ТЕРЕН, народний депутат України.**

# Генадзь Грушавы: “Ніхто не павінен падманваць сябе ды іншых, што існуе альтэрнатыва незалежнасці”

**Шаноўны З’езд!**

Менавіта ў 2000 годзе мы пяройдзем сумную мяжу - нас застанецца на Беларусі менш за 10 мільёнаў. Пры тым, што апошнім часам рэзка павялічыўся прыток бежанцаў з прасторы былога Савецкага Саюзу. Але колькасць насельніцтва змяншаецца...

Кропля за кропляй, нацыя страчвае свае жыццёвыя сілы. Спалучэнне глабальнай ядзернай катастрофы з сацыяльна-эканамічным крызісам нанесла страшэнны ўдар па жыццяздольнасці беларускага этнасу.

Вядома, што наступствы аварыі на ЧАЭС расцягнуцца на стагоддзі, але і тое, што ўжо адбылося, мае лёсавызначальнае значэнне для беларусаў.

Фактычна ўся тэрыторыя Беларусі, усе яе жыхары адчулі на сабе ўздзеянне чарнобыльскай радыяцыі. Страчаны велізарныя прыродныя багацці, эканамічныя страты вымяраюцца сотнямі мільярдаў даляраў. І галоўнае: Чарнобыль зрабіў замах на здароўе ўсёй нацыі. Аб’ектыўныя паказчыкі захворваемасці ў краіне значна павялічыліся практычна па ўсіх класах хваробаў. У першую чаргу гэта закранула дзяцей.

Сёння на Беларусі нараджаецца менш як 20 працэнтаў абсалютна здаровых дзяцей - зніжэнне ў тры разы ў параўнанні з 1986 годам! У чарнобыльскіх рэгіёнах падвоілася колькасць дзяцей-інвалідаў. Хутка падае працягласць жыцця... Пра гэта сведчаць і такія лічбы: у мінулым годзе на Магілёўшчыне нарадзілася каля 3 600 дзяцей, а памерла - 5 400 чалавек!

Добра вядома, што 70 працэнтаў радыеактыўнага рэчыва з Чарнобыльскай станцыі - эквівалент маленькай атамнай вайны - абрынулася менавіта на беларускую зямлю. Дзве другія «чарнобыльскія краіны» (Расея і Украіна) атрымалі разам удвая менш.

Звычайна прыводзяць гэтыя лічбы і гавораць: «Вось яна, галоўная прычына пакутаў беларускага народу». Такая, маўляў, была «ружа вятроў». Трагічная выпадковасць, што тут зробіш.

Мяне абсалютна не задавальняе такі адказ!!! Калі гэта ўся праўда пра нашую бяду, тады растлумачце, калі ласка, чаму тры гады людзей трымалі ў няведанні, без дапамогі, наўмысна перашкаджаючы самім ратавацца сябе ад пагрозы? Чаму менавіта з Масквы прыходзілі канчатковыя экспертныя заключэнні, якія выглядалі, як загады: ніякай панікі, усё добра, людзям нішто не пагражае! А беларускіх навукоўцаў, якія спрабавалі аспрэчваць гэтыя загады, звальнялі з працы. Чаму? Чаму кіраўнік тагачаснай Беларусі, спадар Слюнькоў, пасля такога клопату пра свой народ, хуценька з’ехаў і апынуўся ў Крамлі?

Не, не тэхнічная памылка, не «ружа вятроў», а імперская ўлада ператварыла Беларусь у зону нацыянальнага бедства, у радыяцыйны запаведнік, у сховішча смяротнай атруты. Гэтая звышдзяржава ахвяравала лёсам і жыццём беларускага народа дзеля самазахавання. Але ўдар Чарнобыля нават яна не здолела вытрымаць...

Ці ведаюць пра гэта беларусы? Ведаюць, ды хутка забываюць! Звыкліся з бядой: ва ўспамінах захавалася танная савецкая гарэлка, а пра чарнобыльскі генацыд, пра знішчэнне здароўя сваіх дзяцей больш не думаюць. Калісьці чакалі дапамогі ад краіны, якая павінна несці адказнасць за Чарнобыльскую трагедыю на Беларусі. А як жа, Расея ж абвесціла сябе правапераемніцай былога Саюзу. Аднак нічога істотнага не атрымалі. Засталіся сам-насам з Чарнобылем.

А калі ўявіць сабе, што падчас Чарнобыльскай катастрофы Беларусь была б незалежнай дзяржавай, ці здарылася б з намі тое, што сёння маем? Мы мелі б усе падставы, пры падтрымцы міжнароднай супольнасці, атрымаць поўную кампенсацыю ад тых краінаў, дзе адбылася аварыя. Не было б той дзіўнай сітуацыі, калі ніхто ніякай адказнасці за трагедыю мільёнаў людзей не нясе! Толькі суверэнная краіна можа разлічваць на эфектыўнае дзеянне такіх міжнародных прававых актаў, як Канвенцыя ААН аб аказанні дапамогі ў выніку ядзернай аварыі, Венская канвенцыя аб грамадзянскай адказнасці за ядзерны ўрон і Канвенцыя ААН аб ядзернай бяспецы і гэтак далей.

Адмова ад дзяржаўнага суверэнітэту вядзе да страты магчымасцяў карыстацца міждзяржаўнай і міжнароднай падтрымкай і дапамогай. Тое, што ўжо сёння адбываецца з Беларуссю, якую пануючы рэжым ператварыў у сатэліта Расеі. Не выпадкова былі «замарожаныя» такія важныя для Беларусі пагадненні, як міжурадавы беларуска-аўстрыйскі Мемарандум аб супрацоўніцтве ў галіне мінімізацыі наступстваў Чарнобыльскай катастрофы, а таксама двухбаковыя пагадненні аб навукова-тэхнічным супрацоўніцтве паміж Беларуссю і Вялікабрытаніяй, ЗША, Швецыяй. На чарзе - істотнае змяншэнне міжнароднай няўрадавай гуманітарнай дапамогі ахвярам Чарно-быльскай катастрофы ў Беларусі. Вось гэтага нельга дапусціць! Улічваючы, што бюджэтныя асігнаванні на Чарнобыль пакрываюць толькі дзесятую частку патрэбных краіне сродкаў, міжнародная гуманітарная дапамога ў галіне медыцыны, аздараўлення дзяцей, вітамінізацыі застаецца вельмі важным фактарам захавання здароўя беларускай нацыі.

Што ж чакае «чарнобыльскую» Беларусь у выніку канчатковай страты незалежнасці і ўваходу ў склад Расейскай Федэрацыі?

Па-першае, гэта скасаванне той заканадаўчай базы, якая была створана ў 1990-1992 гадах на Беларусі і якая істотна лепей бараніла правы ахвяраў Чарнобыльскай катастрофы, чым у Расеі. Сёння значная частка адпаведных законаў не дзейнічае ў выніку ўказаў прэзідэнта, які такім чынам пазбавіў дзяржаўнай падтрымкі ў той ці іншай ступені ўсе сацыяльныя групы ахвяраў Чарнобыля: ад інвалідаў - да дзяцей. Але ж адмяніць гэтыя законы праз беларускі парламент не здолеў нават прэзідэнт.

Па-другое, гэта рэзкае змяншэнне чарнобыльскага бюджэту па ўсіх напрамках: ад капітальнага будаўніцтва - да навуковых даследаванняў. Мы вернемся зноў у 1986 год, калі вырашэнне беларускіх праблемаў будзе пастаўлена ў залежнасць ад інтарэсаў цэнтраў.

Па-трэцяе, кардынальна зменіцца характар міжнароднага гуманітарнага супрацоўніцтва. Не сакрэт, што такой шырокай і разгалінаванай сеткі міжнародных праграмаў гуманітарнай дапамогі, якая створана намаганнямі грамадскіх аб’яднанняў на Беларусі, не існуе ні ў Расеі, ні на Украіне. Без перабольшвання можна казаць, што яна ахоплівае ўсю Беларусь. Гэта - галоўнае дасягненне грамадзянскай супольнасці ў нашай краіне, яно дае магчымасць не толькі ўплываць на ўзровень жыцця людзей, але і адчыняць дзверы для нашых дзяцей у цывілізаваны свет.

Можна было б працягваць пералік таго, што прынясе «чарнобыльскай» Беларусі, беларускаму народу, які пакутуе ад радыяцыі, страта незалежнасці і дзяржаўнай самастойнасці.

Але час пакажа: ніхто не павінен падманваць сябе ды іншых, што быццам бы існуе альтэрнатыва незалежнасці ў якасці шляху да выратавання беларускай нацыі ад Чарнобыля. Гэта адзіная магчымасць зберагчы беларускі этнас.

У сваім слове я хацеў давесці да сэрца кожнага чалавека, які жыве на гэтай зямлі, што значыць сёння для Беларусі страціць сваю незалежнасць. Гэта - здаць яе нават не Расеі, гэта здаць яе Чарнобылю. Таму мы ўсе павінны прысягнуць незалежнай Беларусі дзеля сваіх дзяцей, дзеля сваіх нашчадкаў, дзеля самога жыцця беларускага народу!

---

**Аляксандр Смоляр** *(гісторык, прэзідэнт Фонду Сьцяпана Батуры, Польшча)*

Я ня веру, што Беларусь можа калі-кольвечы зьнікнуць з сусьветнай мапы. Сучасныя тэндэнцыі цалкам процілеглыя, бо няспынна ствараюцца драбнейшыя тэрытарыяльныя адзінкі з абмежаваным сувэрэнітэтам, але якія могуць функцыянаваць дзякуючы сыстэме вольнага рынку. Раней выжывалі толькі буйныя дзяржавы, якія былі ў стане весьці пратэкцыяністкую палітыку ды мець моцны рынак унутры сваёй краіны. Сёньня ж ва ўмовах лібэралізацыі міжнароднага гандлю мы бачым, як паўстаюць усё меншыя адзінкі на геапалітычнай мапе сьвету, якія могуць захоўваць свой сувэрэнітэт... Ні ад каго не залежыць Беларусь і культурна. Я ня згодны з тым, што беларусы — гэта носьбіты савецкай культуры, бо такой культуры не існавала ўвогуле. Савецкай была і ёсьць мэнтальнасьць, але толькі не культура. **Савецкасьць, быўшы нэгатыўным гістарычным досьведам, не была творчай, ня ўнесла нічога новага.** Пры гэтым беларуская культура, як і любая эўрапейская культура, захоўвае ўнівэрсальны характар. Але я не магу сказаць, наколькі адкрытай для вонкавага ўплыву ёсьць беларуская культура, ці падпадае яна — праз расейшчыну — пад сусьветны працэс амэрыканізацыі. Наконт мэнтальнасьці беларусаў я б сказаў наступнае. Беларусь — гэта, па вялікім рахунку, калгасная супольнасьць, таму **савецкая мэнтальнасьць будзе тут найтрывалейшай, прымаючы самыя небясьпечныя формы выраджэньня, робячыся субкультурай, якая зьнішчае працаўніка, у першую чаргу.** Савецкая ідэалягічная афарбоўка, безумоўна, зьнікне вельмі хутка, але застанецца прага Танатасу, сьмерці, **застанецца страх перад выклікам гісторыі, перад рызыкай, няпэўнасьцю, перад воляй да стварэньня чагосьці новага, перад той гістарычнай задачай, што стаіць перад усімі нашымі народамі. (Часопіс ARCHE, №3 - 2000)**

● *Куток выбаршчыка*

**Скажыце, калі ласка, чаму пры відавочным бяспраўі Палаты Прадстаўнікоў, у яе так імкнуцца асобныя грамадзяне?**

**Первая категория** — наивные и честные люди. Они искренне верят в возможность, став депутатом, кардинально влиять на улучшение ситуации в стране. Они полагают, что им дадут возможность донести свои взгляды не только до коллег-депутатов, но и до широких масс, прежде всего через государственное телевидение. Не сталкиваясь прежде с БТ, они искренне верят, что это учреждение подчиняется законам, что с их статусом им не будет отказано в праве общаться с аудиторией. Опыт Верховного Сове та 13-го созыва, как известно, убедительно свидетельствует об обратном. Примеров тому не счесть.

**Вторая категория**, в моем понимании, — недалекие и не очень умные люди. Они убеждены, что работать в парламенте может любой человек, для этого не нужно ни особых знаний, ни должной подготовки. Мол, было бы желание, а все остальное — дело наживное. Таких доводи лось видеть и в Верховных Советах 12-го и 13-го созывов, и в нынешней Палате представите лей. Балласт в белорусском парламенте был всегда, наверняка будет и впредь.

**Третью категорию** я характеризую как лгунов и проходимцев. Эти люди прекрасно пони мают всю правовую никчемность своего будущего статуса со всеми вытекающими отсюда последствиями. Но они великолепно знают, что в ранге депутата можно отхватить прекрасные квартиры в лучших домах Минска, ежемесячно получать немалую зарплату, пользоваться персональными (или по вызову) машинами, иметь большие кабине ты, прикрепиться к «лечкомиссии» и т.д., и т.п. Здесь налицо страстная борьба за блага, старательно прикрываемая известной фразеологией о готовности порадеть за счастье своих избирателей и всего белорусского народа.

Итак, зададимся вопросом нужны ли в парламенте избирателям представители всех трех названных категорий? Ответ на него ясен — нет. **Отсюда логичным выглядит призыв к избирателям дружно прийти на участки и безжалостно вычеркнуть из бюллетеней всех кандидатов в депутаты. Абсолютно всех! Не взирая, как говорится, на личности и лица.**

При таком подходе сами по себе отпадут сегодняшние споры о том, нужно ли внутреннее наблюдение за парламентскими выборами. Притягательный для избирателей призыв вынудит власти идти на фальсификацию. Иначе возникает реальная угроза не избрания нового парламента со скандалом на весь мир. Значит, наблюдателям будет где развернуться.

**Владимир Глод**
**"Народная воля" от 15 августа**

**Какая существует уголовная ответственность за нарушение избирательного законодательства?**

В Уголовном Кодексе Республики Беларусь определена уголовная ответственность за нарушение Избирательного Кодекса. Правда, до последнего времени эти нормы не применялись на практике. Например, весьма распространена практика в работе избирательных комиссий, когда берется выносной ящик без списка избирателей, **желавших проголосовать на дому, и делается обход избирателей с предложением проголосовать. Это нарушает тайну голосования и уголовно наказуемо.** Также наказуемы и угрозы руководителей разобраться с работником, если он не проголосует – ибо тайным является не только процедура голосования, но и участие в голосовании. Чиновники грубо нарушают права граждан, заставляя под угрозой санкций голосовать. **Члены участковых комиссий должны понимать, что именно они уголовно отвечают за нарушение избирательных прав граждан.**

*Эти и другие нарушения в работе комиссий преследуются по УК РБ, например.*

***Статья 131.* Подлог избирательных документов, заведомо неправильный подсчет голосов или нарушение тайны голосования**

Подлог избирательных документов или заведомо неправильный подсчет голосов, а **равно нарушение тайны голосования,** совершенные членом избирательной комиссии либо должностным лицом государственного или общественного органа,

**- наказывается лишением свободы на срок до трех лет или исправительными работами до двух лет, или штрафом.** *(В редакции Указа от 25 декабря 1989 г. и Закона от 1 марта 1994 г. - СЗ БССР, 1990 г., Но 1, ст. 4; Ведомости Верховного Совета Республики Беларусь, 1994 г., №12. ст. 176.)*

***Статья 131.1* Нарушение законодательства о народном голосовании (референдуме)**

Воспрепятствование путем насилия, обмана, угроз, подкупа или иным путем свободному осуществлению гражданами Республики Беларусь их прав на участие в референдуме, а равно подлог документов, приписка, заведомо неправильный подсчет голосов, нарушение тайны голосования, совершенные должностным лицом государственного или общественного органа, предприятия, учреждения, организации, членом инициативной группы или комиссии по референдуму,

- наказываются лишением свободы на срок до пяти лет или исправительными работами на срок до двух лет, или штрафом. *(Статья 131' введена Законом от 13 июня 1991 г. - Ведомости Верховного Совета Белорусской ССР, 1991 г., Л/о 25, ст. 366; в редакции Закона от 1 марта 1994 г. - Ведомости Верховного Совета. Республики Беларусь, 1994 г., № 12, ст. 176.)*

**Заснавальнік: Леанід Гаравы.**

**Рэдактар: Аляксей Шчупак**

Адрас: 211540, г. Гарадок, вул. Гагарына, 30б-16
Тэл. 8-239-2-38-42
E-mail: gasc@gar. belpak.vitebsk. by

Выдадзена пры падтрымцы Віцебскага аддзялення ГА «Фонд імя Льва Сапегі»
Распаўсюджваецца бясплатна
Наклад 290 асобнікаў